# РЭГІЁН
ГАРАДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

№1(15)

Інфармацыйнае выданне
Распаўсюджваецца бясплатна

# Машталеры – кар’еры сьмерці

Аўтар Міхась Скобла

**Гэтую немалую па колькасьці двароў вёску знойдзеш не на кожнай аўтамабільнай мапе. Пра яе не гаворыцца ні ў «Беларускай энцыкляпэдыі», ні ў інтэрнацыянальнай Вікіпэдыі. А вёска такая ў Мастоўскім раёне ёсьць – з базавай школай, з трывалымі хатамі-мураванкамі, збудаванымі яшчэ за польскім часам, зь дзіцячым сьмехам на вечаровай вуліцы. А яшчэ – зь пяшчанымі кар’ерамі, раскапанымі за нейкую сотню мэтраў ад згаданай школы.**



*Чалавечы чэрап на месцы Машталерскага кар’еру*

На гэтых кар’ерах, даруйце за калямбур, мясцовы калгас і зрабіў кар’еру. Пясок патрэбен усім – і дарогі падсыпаць, і аграгарадкі будаваць. Уся ваколіца ехала і едзе па машталерскі пясок – ледзь не штодня ў тых кар’ерах натужна равуць самазвалы і завіхаюцца экскаватары.

Кар’ер. Жоўты пясочак. Гэтыя быкаўскія асацыяцыі заканамерна прыходзяць на розум, калі стаіш на стромістым беразе машталерскага кар’еру. Бо там, у жоўтым пясочку – скрозь чалавечыя косткі. Чарапы рознай велічыні вывальваюцца са сьценак кар’еру, на дне, проста пад нагамі, – сківіцы, фалянгі пальцаў, галёначныя косткі.

Іх вельмі шмат. У адным кар’еры, у другім... Відно, што на чалавечыя парэшткі тут даўно ніхто не зьвяртае ўвагі. Косткі бялеюць наўзбоч разьезджанай грузавікамі дарогі, на сьцежцы, што вядзе да недалёкага кароўніка. На кар’ерным дне і вакол – сьвежыя сьляды аўтамабільных пратэктараў. Зусім нядаўна тут хтосьці загружаўся пяском з чалавечымі чарапамі. Куды той груз трапіў? Пад асфальтаўкладчык ці ў падмурак шматкватэрнага дому?

Пра кар’еры сьмерці ў Машталерах мне паведаміў мастоўскі краязнаўца Сяргей Шамбер. Я не паверыў. Усё ж Заходняя Беларусь, дзе даўжэй дзейнічалі цэрквы і касьцёлы, дзе зьняважаньне магілаў заўсёды лічылася вялікім грахом. Аказалася – усё так і ёсьць. Здабываюць жоўты пясочак, езьдзячы па чалавечых чарапах.

Чые гэта парэшткі? Хто там ляжыць? Невядома. Адназначна пакуль што можна сьцьвярджаць адно: гэта ня могілкі, бо косткі залягаюць пераважна на глыбіні да аднаго мэтра і плытчэй. Так нябожчыкаў не хаваюць. Так сьпехам прысыпаюць ахвяраў.

Уразіла мяне і тое, што ніводзін зь мясцовых жыхароў (апытана было восем чалавек) ня ведае, хто ляжыць у машталерскіх кар’ерах. Распытваем дзевяностагадовую бабулю, а тут вуліцай едзе на роверы колішні дырэктар школы. Неяк насьцярожана гледзячы нам у вочы, расказаў, як аднойчы на дзіцячую пляцоўку пры школе прывезьлі машыну пяску. Дзеці разгрэблі той пясок, а там – чэрап. У настаўніцкую прынесьлі. Але адміністрацыя школы справу вырашыла замаўчаць – пясок быў патрэбен.

У Машталерах не перасяленцы з чарнобыльскай зоны жывуць. Не прыблуды якія. Шэсьць з апытаных самыя сапраўдныя аўтахтоны – і бацькі тут пахаваныя, і дзяды. Звычайна, калі няма праўдзівай інфармацыі пра нейкую падзею, дык хоць легенды мясцовае насельніцтва пераказвае. Машталерцы – як змовіліся: нічога ня ведаем. Павальнае бяспамяцтва, нібы флэш-карту з мазгоў дасталі. Проста за агародамі чарапы аб кузавы бразгаюць, а людзі абыякава махаюць рукой. Маўляў, самім скора ў хвойнік на вечны спачын зьбірацца. Але ці будзе ён вечны? А што калі і на вашых могілках жоўты пясочак камусьці спатрэбіцца...

Мой спадарожнік прыгадвае, як прывозіў у машталерскія кар’еры сьмерці мясцовага дэпутата з Мастоў. Той павохкаў-павохкаў і паабяцаў стварыць адмысловую камісію для расьследаваньня. Гады тры ўжо з таго часу прайшло. Відаць, таксама вырашыў замаўчаць справу – ужо на сваім дэпутацкім узроўні.

**Пачатак. Заканчэнне на стар.2.**

## Машталеры – кар’еры сьмерці

**Заканчэнне. Пачатак на стар.2.**

Звычайна, на месцах масавых пахаваньняў знаходзяць манэты, асабістыя рэчы і паводле іх робяць пэўныя высновы. У кар’ерах сьмерці ў Машталерах знойдзены пакуль што толькі адзін рэчавы доказ – бляшаная скрыначка 1816 году. Больш нічога. Але рэчавыя доказы знаходзяць, калі адпаведным спосабам шукаюць. Экскаватарным каўшом памахаўшы, няшмат знойдзеш...

Вандалізм у Машталерах працягваецца ўжо ня першы дзясятак гадоў. Пакаленьні ўзрасьлі, моўчкі сузіраючы чарапы ў пяску. І нікому зь мясцовых начальнікаў (з Глядавіцкага сельсавету, з Мастоўскага райвыканкаму) не прыйшло ў галаву спыніць той калгасны вандалізм, закансэрваваць кар’еры, правесьці асьцярожныя археалягічныя дасьледаваньні. Бо кар’еры тыя – уладаньні сьмерці, за разбурэньне якіх яна можа і адпомсьціць. Жоўты пясочак з пустых вачніцаў – будматэрыял ненадзейны.

**Міхась Скобла**
**http://www.svaboda.org**

## Гродненская область – лидер по числу долгожителей

**Столетний рубеж в Беларуси преодолели 566 жителей, сообщила БЕЛТА главный специалист отдела по делам ветеранов и пожилых людей Министерства труда и социальной защиты Татьяна Максимова.**

По ее словам, среди белорусских долгожителей традиционно лидируют женщины. По данным на 1 апреля текущего года, 100-летнюю планку перешагнули 482 женщины и 84 мужчины. Таким образом, представительницы слабого пола лидируют почти с семикратным перевесом.

**naviny.by**



*Бакі для раздзельнага сбору смецця у Мастах*

# Раздельный сбор отходов

**Раздельно собранные отходы – это НЕ МУСОР, это ВТОРИЧНОЕ СЫРЬЕ.**

Содержимое нашего мусорного ведра – это не просто некое вещество «non grata», предмет головной боли чиновников из районных или областного ЖКХ , отвечающих за санитарную очистку городов Гроднейнской области, – это ВСЕ, что было некогда извлечено из чрева Земли, переработано в полезную продукцию, а затем – отринуто за ненадобностью. И основной вопрос, возникающий при таком отношении к отходам, – не как сделать их незаметными для глаза, а как научиться возвращать их в цикл производства, тем самым заменяя природные ресурсы и, соответственно, уменьшая количество карьеров, горных выработок, нефтяных разливов и площадей с вырубленными лесами. Организация круговорота «техногенного» вещества, аналогичного круговороту «биогенного», в природной среде – это единственный способ удовлетворения всех наших потребностей при минимальном вреде, наносимом окружающей среде.

Не зря за рубежом новая концепция обращения с отходами обрела емкое название «Zero waste», что в переводе на русский язык означает как «Ноль отходов» так и «Ноль потерь».

К сожалению, в среде местных чиновников Беларуси все пока остается по-старому: это и ориентация, в основном, на захоронение отходов на свалках, и активное проталкивание идей строительства мусоросжигающих заводов, и, главное, отсутствие желания работать с населением.

Но даже обустроенные по последнему слову техники полигоны бытовых отходов (котрых в Беларуси только к 2015 году планирую построить 11 ) неизбежно создают целый комплекс экологических проблем. В Беларуси почти отсутствуют такие «правильнык полигоны» – есть только свалки, которые будут загрязнять окружающую среду еще около 100 лет после их закрытия.

В печи же мусоросжигательного завода даже безобидные, на первый взгляд, бытовые отходы превращаются в настоящий «коктейль» опасных ядов токсикантов. И ни один, даже самый совершенный фильтр не спасает.

Мы выступаем выступает за скорейшее внедрение во всех городах Гродненской области разумных схем переработки отходов. Уже сейчас можно выделять и отправлять на переработку не менее половины образующихся отходов.

Однако для достижения их глубокой переработки (90 и более %) необходимо внедрение СЕЛЕКТИВНОГО СБОРА ОТХОДОВ, а значит – участия всех граждан нашей страны. Ведь смешиваясь в общем баке, один вид полезной продукции загрязняет другой, не менее полезный. И именно этот «коктейль» мы называем мусором. Раздельно собранные отходы – это НЕ МУСОР, это ВТОРИЧНОЕ СЫРЬЕ, из которого можно получать нужные нам товары, не увеличивая нагрузку на окружающую среду.

**Активисты общественной кампании «Гражданская Гродненщина»**

В тексте использованы материалы Гринпис.

# Экологи считают, что Беларусь нарушает международное законодательство при строительстве АЭС

**Белорусские экологи и политики выразили серьезную обеспокоенность нарушениями Беларусью международного законодательства при строительстве АЭС в Островце?**

Соответствующее заявление подписали руководители Белорусской партии «Зеленые», Партии БНФ, Белорусской социал-демократической партии (Грамада), оргкомитета по созданию партии «Белорусская христианская демократия», инициатив «Европейская Беларусь» и «Беларускі рух», профсоюза РЭП, общественного объединения «Экодом», общественной кампании «Островецкая атомная – это преступление!», общественной экологической экспертизы проекта белорусской АЭС.

В заявлении говорится о фактах нарушения Беларусью при строительстве АЭС Конвенции об оценке воздействия на окружающую среду в трансграничном контексте Европейской экономической комиссии ООН (Конвенция Эспоо). Авторы напоминают, что это не единственный случай отступления Беларуси от международных договоренностей при строительстве островецкой АЭС и приводят пример нарушения Конвенции о доступе к информации, участии общественности в процессе принятия решений и доступе к правосудию по вопросам, касающимся окружающей среды (Орхусская конвенция), официально установленные Комитетом по соблюдению Орхусской конвенции в июне 2011 года.

По данным представителей экологической общественности, Беларусь не выполняет рекомендации Комитета по соблюдению Орхусской конвенции, что говорит о систематическом пренебрежении страной международными обязательствами.

Эксперты Комитета по осуществлению Конвенции Эспоо также дали ряд рекомендаций Беларуси, напоминают подписавшие заявление. «Если их кратко суммировать, Беларусь должна начать процедуру оценки воздействия на окружающую среду в трансграничном контексте фактически заново и пересмотреть как минимум решение про окончательный выбор островецкой площадки с учетом требований Литвы», – говорится в документе.



*Праэкт беларускай АЭС у Аўстраўцы*

Однако Беларусь не спешит признавать ошибки, а наоборот, пытается дезинформировать национальную и международную общественность о строительстве островецкой АЭС, говорится в документе. Так, белорусские чиновники неоднократно заявляли о том, что Беларусь выполняет международные обязательства при реализации своего атомного проекта. С другой стороны, отмечают авторы заявления, представители правительства Беларуси официально декларируют на международном уровне, что якобы разрешение на строительство АЭС на островецкой площадке все еще не выдано (именно так понимают ситуацию в Комитете по осуществлению Конвенции Эспоо). «Как в таком случае воспринимать работы по строительству и бетонированию котлована под реакторное здание первого и теперь уже второго энергоблоков – как незаконное строительство?» – задаются вопросом экологи и политики.

Подписавшие заявление считают, что власти Беларуси должны: «остановить дезинформацию по поводу исполнения международного законодательства при строительстве АЭС, безотлагательно остановить проектирование и строительство АЭС, заново провести все процедуры, которых требуют Орхусская конвенция и Конвенция Эспоо, и пересмотреть в соответствии с этими процедурами все решения, связанные со строительством АЭС».

Белорусские экологи и политики выражают уверенность, что при надлежащем исполнении этих процедур от строительства АЭС придется окончательно отказаться, так как этот объект «экологически опасный, экономически затратный и не выдерживает никакой критики в рамках оценки воздействия на окружающую среду».

**БелаПАН**

# Алесь Смалянчук: Беларусь ня мае

**Толькі апошнім часам з Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Янкі Купалы з ідэалягічных прычынаў былі звольненыя трое гісторыкаў – Андрэй Чарнякевіч, Ігар Кузьмініч і Вячаслаў Швед. Але чаму і зь недзяржаўнага Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту пазьнікалі праграмы па беларускай гісторыі? Сваё разуменьне сытуацыі выказвае доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук.**



*Доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук*

*– Алесь, наколькі я ведаю, Вячаслаў Швед ня быў апазыцыйна настроены да ўлады. Хутчэй, наадварот, займаючы афіцыйную пасаду, ставіўся да яе ляяльна. За што ж яго звольнілі?*

– Прафэсар Швед ня тое што ляяльна ставіўся да ўлады. Ён проста прафэсійна выконваў свае абавязкі – як загадчык кафэдры, як гісторык, вельмі вядомы ў Горадні. Ён напісаў каля 10 кніг па гісторыі гораду пераважна канца XVIII – пачатку XX стагодзьдзя. А адказ на пытаньне вельмі просты – гэта помста за выданьне кнігі «Гродназнаўства: гісторыя эўрапейскага гораду». Думаю, што помста гэтая сыходзіць з самага верху гарадзенскага кіраўніцтва, ад кіраўніка вобласьці Сямёна Шапіры. Прынамсі, так можна сёньня казаць, бо нядаўна сам Шапіра падчас візыту ў Гарадзенскі ўнівэрсытэт заявіў, што менавіта па яго загадзе звольнілі Андрэя Чарнякевіча – яшчэ аднаго з аўтараў «Гродназнаўства». Гэтая кніга мае недахопы – можна было б больш напісаць пра полікультурнасьць, шматканфэсійнасьць Горадні, але ў цэлым, улічваючы дапаможны апарат, шыкоўныя ілюстрацыі, выданьне атрымалася. Пэўны час «Гродназнаўства» адкрыта прэзэнтавалася ў Горадні, улады нават выкарыстоўвалі яго ў якасьці падарункаў. Што здарылася потым – мне невядома, але галоўны закід аўтарам кнігі – тое, што яна выдавалася ў Польшчы за польскія грошы.

*– Атрымліваецца, што Аўгустоўскі канал за польскія грошы можна аднаўляць, а кнігі выдаваць – нельга?*

– Дык Аўгустоўскі канал аднаўляецца з санкцыі ўлады. А тут абышліся бяз санкцыі. Дарэчы, Шапіра падкрэсьліў, гаворачы ва ўнівэрсытэце пра Чарнякевіча: «Хіба ён ня мог прыйсьці да мяне параіцца?». Трэба было пайсьці, пакланіцца, параіцца, папрасіць дазволу… Рацыянальных падставаў такім чынам расправіцца з аўтарскім калектывам «Гродназнаўства» няма. Тым больш, кніга ў іншым афармленьні вытрымала ўжо два выданьні ў выдавецтве Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Канешне, улады зьвярнулі ўвагу, што аўтары спыніліся на 1991 годзе. Ня сталі пісаць пра сучаснасьць. Але гісторыкам у сучаснай Беларусі цяжка пісаць пра апошнія 20 гадоў, разглядаючы між іншым і палітычнае жыцьцё. Аўтары вырашылі проста паставіць кропку на нейкі час. Але гісторыя гэтага дваццацігодзьдзя ўсё роўна будзе напісана.

*– Мне хочацца параўнаць два аднапрофільныя ўнівэрсытэты – Гарадзенскі і Магілёўскі. Выкладчык Магілёўскага Ігар Марзалюк стаў сэнатарам, а выкладчыкаў Гарадзенскага аднаго за другім (Андрэй Чарнякевіч, Ігар Кузьмініч, Вячаслаў Швед) звальняюць з працы. Чаму ў дзьвюх падобных ВНУ такая адрозная сытуацыя?*

– Справа, думаю, у гістарычнай палітыцы беларускай дзяржавы. Ігар Марзалюк здолеў неяк упісацца ў гэтую гістарычную палітыку. Не хачу цяпер ацэньваць яго працы, мы бачыліся ў канцы мінулага году, і я выказаў яму спачуваньне з нагоды абраньня ў верхнюю палату. І ён са мной пагадзіўся, здаецца. Сытуацыя з гістарычнай палітыкай у нашай краіне вельмі няпростая. Кожная дзяржава праводзіць пэўную гістарычную палітыку. У чым яна заключаецца ў Беларусі – цяжка сказаць. Як выглядае – яе проста няма. Гэта можа быць прадметам сур'ёзнай і працяглай дыскусіі. Відавочна тое, што ў сучаснай Беларусі ўлады спрабуюць захаваць савецкія ідэалягемы, гістарыяграфію савецкага часу. Савецкага Саюзу даўно няма, а за яго гістарычную палітыку беларускія ўлады чамусьці лічаць сябе адказнымі. Між іншым, і за Кіеўскую Русь як агульную калыску трох братніх народаў, за значную ролю праваслаўя і г.д. У трактоўцы некаторых рэчаў ёсьць пэўныя разыходжаньні ў гарадзенскіх і магілёўскіх гісторыкаў.

# ўласнай гістарычнай палітыкі

Савецкага Саюзу даўно няма, а за яго гістарычную палітыку беларускія ўлады чамусьці лічаць сябе адказнымі

*– Справа ў трактоўцы, ці ў адносінах канкрэтных абласных начальнікаў? Наколькі суб'ектыўны фактар тут істотны?*

– Гэты фактар, безумоўна, вельмі істотны. Не хачу тут казаць пра адносіны Сямёна Шапіры да гісторыі. Калі называць рэчы сваімі імёнамі, то мае месца самадурства чыноўнікаў на месцах. Для іх няма ніякага абмежаваньня – законнага ці нават маральнага.

*– Звольніць выкладчыка, а потым прыйсьці ва ўнівэрсытэт і пахваліцца гэтым.*

– Нешта падобнае здаралася і ў савецкія часы. Але тады саромеліся пра гэта казаць, хавалі праўду. Сёньня не хаваюць і амаль з гонарам пра гэта гавораць.

*– Вас жа і самога змусілі сысьці з Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту. Калі сытуацыя ў ГрДУ зразумелая, то чаму прафэсіяналам не знаходзіцца месца ў ЭГУ?*

– Мая гісторыя простая. Былы ўжо дырэктар дэпартамэнту гісторыі прафэсар Цярашковіч проста не працягнуў са мной кантракт. Мой курс выкінулі з вучэбнай праграмы, а гэта быў апошні курс, які я выкладаў. Я мог застацца ў ЭГУ і займацца навукай, але за навуку там ня плацяць, а трэба зь нечага жыць. І я быў вымушаны сысьці адтуль. Сытуацыя ў ЭГУ ў параўнаньні з ГрДУ, безумоўна, іншая, але ў нечым падобная. Калі казаць праўду, высокапрафэсійныя кадры (тут я маю на ўвазе не сябе) у ЭГУ ніколі не шанаваліся, там ужо тры гады няма набору на гістарычнае аддзяленьне. Адна праблема, што ахвотнікаў асабліва няма зь Беларусі ехаць у Вільню вывучаць гісторыю. Іншая справа – гэта кадравая палітыка дырэктара дэпартамэнту гісторыі і ўсёй адміністрацыі ЭГУ, у выніку якой адтуль паступова прыбралі вядомых гісторыкаў Захара Шыбеку, Валянціна Голубева і другіх.

*– Станіслаў Шушкевіч заявіў, што ЭГУ выпускае манкуртаў. А як вы ацэньваеце тамтэйшую адукацыю з нацыянальнага гледзішча?*

*Адміністрацыя ЭГУ ўжо адкрыта дэманструе сваё непрыманьне ўсяго беларускага*

– Знайсьці ў ЭГУ нешта нацыянальнае можна сёньня толькі па крупінках. Калі існавала гістарычная праграма і была паліталёгія, то былі дзьве моцныя праграмы, дзе і прысутнічала беларускасьць. І адтуль яна разыходзілася па ўсім унівэрсытэце. Хоць усё роўна, уплывы яе былі вельмі моцна абмежаваныя. Цяпер жа няма набору ні на гісторыю, ні на паліталёгію. А адміністрацыя ЭГУ ўжо адкрыта дэманструе сваё непрыманьне ўсяго беларускага, амаль што пагарду да беларускай мовы, да беларускай гісторыі. Я б не сказаў, што манкурты там выхоўваюцца. У ЭГУ выхоўваюцца людзі, якія вельмі далёкія ад Беларусі, якія ў сваіх жыцьцёвых плянах пра Беларусь ужо ня думаюць. Іх мэта – працаўладкавацца за мяжой.

*– Нядаўна ў Менску прэзэнтавалася ваша кніга «Беларуская гісторыя: знайсьці чалавека». Старагрэцкі філёзаф Дыяген шукаў чалавека разумнага днём з агнём. А якога чалавека ў айчыннай мінуўшчыне шукаеце вы?*

– Я спрабую знайсьці чалавека жывога. Тэма чалавека ў беларускай гісторыі мяне даўно цікавіць. У нас звычайна, калі трактуюць нейкія падзеі, аналізуюць сацыяльна-эканамічнае, палітычнае, культурнае жыцьцё. А мая мэта – зірнуць на гісторыю з гледзішча паводзінаў канкрэтнага чалавека, зразумець матывы яго ўчынкаў. Чалавек становіцца жывым і рэальным, больш прывабным. І гісторыя становіцца зусім іншай. Гісторык пачынае весьці дыялёг з чалавекам мінулага, а не ацэньвае яго як прадмет дасьледаваньня. Відавочна, што людзі мінуўшчыны вельмі моцна псыхалягічна, у мэнтальным пляне адрозьніваліся ад сучасных беларусаў. І гэта трэба ўлічваць. У сваёй кнізе я пішу пра Каліноўскага і Доўнар-Запольскага, спрабую зразумець чалавека, які пісаў даносы на паўстанцаў, – Восіпа Радкевіча. Ёсьць там тэкст, прысьвечаны таму, як зьневажалі беларусы расейскага імпэратара. Я прааналізаваў сьледчыя справы аб зьнявазе з 1868 па 1893 год. Самы страшны праклён быў: «Каб зямля яго косткі выкінула» – так беларусы праклінале Аляксандра II. І гэта нягледзячы на тое, што ён быў вызваліцелем сялянаў, адмяніў прыгоннае права. Пры Аляксандры II не было сур'ёзных пакараньняў за гэта, але заўсёды каралі пры Аляксандры III. Розныя былі пакараньні, але часьцей за ўсё трымалі пад арыштам 15 сутак.

Самы страшны праклён быў: «Каб зямля яго косткі выкінула» – так беларусы праклінале Аляксандра II

*– За праклён імпэратара ўсяго 15 сутак?*

– Усяго 15 сутак. Толькі адзін быў выпадак, калі чалавека выслалі на 6 месяцаў у Сыбір. Але ён зьняважыў ня толькі імпэратара, але ўрад і яшчэ кагосьці. Там была больш сур'ёзная справа.

*– У сваёй прадмове да згаданага ў пачатку размовы «Гродназнаўства» вы напісалі: «Тут заўсёды надзвычай востра стаяла праблема выбару паміж рабствам і свабодай. Звычайна гарадзенцы выбіралі свабоду! Некаторыя – хлусьню і рабства, але большасьць усё ж свабоду». Па вашых адчуваньнях, што сёньня выбіраюць беларусы?*

– Баюся, што мая прадмова таксама спрычынілася да разгрому кнігі… Што да выбару беларусаў, то большасьць выбірае свабоду, хоць гэта і не відно асабліва па іх паводзінах. У побытавым жыцьці пры нейкім складаным выбары яны могуць і па-іншаму паступіць, але ў душы яны хочуць быць свабоднымі і застаюцца свабоднымі. Беларусы могуць быць спакойнымі, ціхімі, паслухмянымі, нават абыякавымі, але ўнутры людзі жывуць пачуцьцём свабоды. Гэта, безумоўна, для іх каштоўнасьць. Я проста ў гэтым упэўнены.

**Міхась Скобла**
**svaboda.org**

# Аляксандр Мілінкевіч. ДЫЯЛОГ. Любіце Беларусь болей, чым вы ненавідзіце Лукашэнку!

**“Санкцыі-шманкцыі”, — бурчыць народ, слухаючы, як мы, апазіцыя, у наццаты раз дыскутуем пра тое, што павінен зрабіць для нас Захад, каб захісталася дыктатура. Але хісткімі становяцца нашыя маральна-палітычныя пазіцыі.**

Апазіцыя ілюзорна жыве сама па сабе, а грамадства — асобна ад тых, хто папулярызуе ў краіне дэмакратычныя каштоўнасці.

Гэтак было і падчас вузкамедыйных слоўных боек у перыяд мінулагодніх “выбараў” у парламент, калі ані беларусы, ані Еўропа з большага так і не зразумелі таго, чаму галоўным пытаннем для дэмакратаў падчас электаральнай кампаніі з’яўляецца “байкот — небайкот”, а не сапраўдныя праблемы людзей. А гэта перадусім — заробкі і кошты, адукацыя і будучыня дзяцей, няўпэўненасць у заўтрашнім дні, карупцыя і хамства ўлады.



*Аляксандр Мілінкевіч*

Беларусы адчуваюць сябе пакінутымі са сваімі праблемамі самна-сам — і ўсё болей ўспрымаюць змаганне апазіцыі з рэжымам не як адстойванне грамадскіх інтарэсаў, свабоды і справядлівасці, а як звычайную барацьбу за крэслы і пасады.

Людзям важна пераканацца, што дэмакраты дзеяздольныя: ведаюць, як мадэрнізаваць краіну і маюць падрыхтаваных спецыялістаў у Мінску і ў рэгіёнах для правядзення рэформ. А мы ім усё пра “крывавы рэжым” і дэспатыю!

Дык ужо ўсе, хто хацеў ведаць праўду пра “дзяржаву для народа”, даўно яе ведаюць. Адкрытае пытанне для абсалютнай большасці — каму даверыць ажыццяўленне пераменаў?

Заклінанні, што мы ёсць збаўцамі ад дыктатуры і праваднікамі ў лепшую будучыню, спрацоўваюць слаба.

**Пачатак. Заканчэнне на стар.8.**

# Ученые назвали самые полезные фрукты и овощи

**Британская ассоциация диетологов выделила 5 овощей и фруктов, которые должны ежедневно присутствовать в рационе питания человека. Что на самом деле является более полезным для здоровья?**

Эксперты считают, что в меню следует заменить морковь и апельсин на более полезные папайю и сладкий картофель, в которых содержится больше витамина А.

В список самых необходимых фруктов, овощей и ягод вошли капуста, черная смородина и малина. Эти продукты содержат в большом количестве вещества, улучшающие работу сердечно-сосудистой системы, зрение и укрепляющие кости.



*Малина*

Кроме того, согласно многочисленным исследованиям, именно эти продукты снижают риск развития диабета и различных видов рака.

## У Літве англійскай мовай валодае 70% моладзі

**Англійская мова хутка набірае папулярнасць у Літве - за 10 гадоў колькасць людзей, якія валодаюць ёй, вырасла на 17-30%, такія звесткі статыстыкі.**

У ходзе перапісу насельніцтва, які правялі ў 2011 годзе, высветлілася, што сярод маладых людзей 15--29 гадоў англійскай валодаюць 72%, паведамляе Дэпартамент статыстыкі.

Англійская мова значна апярэджвае расейскую ў групе маладых людзей да 25 гадоў. Жыхары Літвы старэйшыя за 30 гадоў валодаюць расейскай лепш.

Паводле дадзеных перапісу, усяго расейскай у Літве валодаюць 63% насельніцтва, польскай - 8,5%, нямецкай - 8,3%, французскай - амаль 2% насельніцтва.

**nn.by**

# Зачем оппозиции «Народный референдум»?

**Шансы оппозиции в Беларуси должны возрастать, если она предложит удачную альтернативу — эксперты о продуктивности новой инициативы несогласных с Лукашенко.**

Партия БНФ, Движение «За свободу» и гражданская кампания «Говори правду» заявили о начале кампании «Народный референдум». По словам инициаторов, эта долгосрочная акция будет охватывать три электоральные кампании — местные, президентские и парламентские выборы, в рамках которых подписавшие соглашение организации будут выступать единым политическим фронтом.

Стратегические партнеры пообещали найти ответ и на вопрос о том, кто будет единым кандидатом в президенты на выборах 2015 года.

Еще одна хорошая идея

С ама по себе идея народного референдума является интересной и дает возможность для создания серьезной коалиции , считает политический обозреватель еженедельника «Белорусы и рынок» Павлюк Быковский. Однако он не видит причины для остальных игроков согласиться с инициативой Партии БНФ, Движения «За свободу» Милинкевича и кампании «Говори правду» Некляева.

— Очевидно, что Объединенная гражданская партия, БХД и другие инициативы присоединяться к этому процессу не захотят, — прогнозирует эксперт.

Идею находит интересной и политолог Валерий Карбалевич, но напоминает, что много других хороших идей в Беларуси так и не было реализовано на практике.

Партнерство оппозиционных политиков не подразумевает создания единой организации. Его цель — проведение народного референдума, на котором будут сформулированы конкретные вопросы о дальнейшем развитии страны.

— Инициированный оппозицией



референдум в сегодняшних условиях состояться не может, но из этого можно извлечь политический пиар, получить политический эффект, — говорит Валерий Карбалевич. — Что касается самого названия «народный референдум», то в политике действуют свои правила: красивое название часто может быть не совсем логичным, но если оно воспринимается населением, то почему нет?

Что мешает оппозиционерам найти общий язык?

До выборов осталось не так уже и много времени. Но желание создать коалицию, по мнению экспертов, не может быть приурочено к дате. Оно возникает, когда есть идея и определенная фигура, которая готова объединять коалицию, отмечает Павлюк Быковский.

— Всего этого пока нет, есть только желание что-то сделать для решения проблемы, — констатирует эксперт. — Ровно столько же шансов и у инициативы Объединенной гражданской партии по проведению праймериз.

В Беларуси прошло немало электоральных кампаний, включая президентские выборы, в которых активно принимала участие оппозиция. Сейчас ее рейтинг, если судить по социологическим опросам, невелик. В отношении некоторых деятелей он не превышает статистической погрешности. Почему оппозиционеры до сих пор не могут найти общий язык?

— В ситуации, когда оппозиционная политика маргинализирована, когда нет возможности влиять на принятие государственных решений и выступать представителями широких масс в парламенте и местных органах власти, всегда сложно договориться, — отмечает Павлюк Быковский. — Чаще всего политика реализуется на уровне персоналий, а не на уровне идей. А конкретная задача изменения ситуации рассматривается как мало достижимая цель. Но когда видно, что эту цель можно достичь, возникают реальные коалиции, которые находят возможности для сотрудничества, что показал опыт многих стран, переживших трансформацию.

Шансы оппозиции должны возрастать

Не единожды озвучивалось мнение, что нынешних самых активных оппонентов власти устраивает статус-кво, который они сейчас имеют.

— Такого рода констатация факта является в достаточной степени циничной. Они скорее вынуждены довольствоваться статусом-кво. Раньше, когда политика не была настолько зажата, когда на политическом поле существовала реальная конкуренция, — можно вспомнить Верховные Советы 12 и 13 созывов, — возникали различные инициативы, которые были весьма амбициозны. Сейчас же, когда на повестке дня стоит вопрос выживания, на большее представители оппозиции пока не могут рассчитывать, — резюмирует Павлюк Быковский.

Предложенная Александром Лукашенко политическая модель еще не выработала свой ресурс, добавляет Валерий Карбалевич.

— Однако ситуация понемногу меняется. Если судить по соцопросам, то люди хотят перемен, большинство населения считает, что страна идет не в том направлении, и тут шансы оппозиции должны возрастать. Конечно, если она предложит удачную альтернативу, — подытоживает политолог.

**Геннадий КОСАРЕВ**
**Zautra.by**

# Аляксандр Мілінкевіч. ДЫЯЛОГ. Любіце Беларусь болей, чым вы ненавідзіце Лукашэнку!

**Заканчэнне. Пачатак на стар.6.**

Толькі сляпы не бачыць адарванасці шмат каго з апазіцыі ад рэчаіснасці і замкнёнасці на сабе. Вось і скатваецца яна ад сталай падтрымкі калісь кожным трэцім-чацвертым да сённяшняй падтрымкі ўсяго толькі кожным восьмым.

Мы мусім даказаць, што мы здольныя кіраваць краінай!

Большасць грамадства хоча эвалюцыйных пераменаў і не прымаюць апелявання да Захада аб увядзенні шырокіх санкцый ажно да эмбарга. Тым больш што найчасцей яны гучаць з бяспечнага замежжа. Што называецца, "зрабіце нам прыгожа", бо мы цярпець не можам рэжым! Забяспечце нам справядлівыя пераможныя выбары для поўнага дэмакратычнага шчасця!

Колькі нашых суграмадзянаў згодзяцца на прынцып "чым горш, тым лепш"? Зрэшты, нават моцны крызіс 2011 года, да якога прывяла эканамічная палітыка ўладаў, беларусаў на рэвалюцыю не ўзбухторыў.

Не Еўропа нам пабудуе тут дэмакратыю, а толькі мы самі, калі дасможамся падтрымкі большасці грамадства, калі пераможам у думках людзей, калі ў іх галовах будзе болей Еўропы і незалежнай Беларусі, чым камунізму.

Так і хочацца сказаць "палымяным": любіце Беларусь болей, чым вы ненавідзіце Лукашэнку! Найперш трэба кіравацца нацыянальнымі інтарэсамі!

Нельга дапусціць, каб у запале змагання пад руінамі дыктатуры знікла краіна, стаўшыся суцэльным васалам усходняй суседкі, якая зноў марыць пра аднаўленне "единой и неделимой".

Перамагаць трэба не толькі ў Брусэлі і Вашынгтоне, а перадусім у Навагрудку і Мсціславе!

З досведу ўласных сустрэч: у Еўропе, як і ў самой нашай краіне, мала хто верыць, што ізаляцыя — гэта надзейны шлях да свабоды і дэмакратыі. Яшчэ меней там спадзяюцца, што новая Берлінская сцяна паміж Гародняй і Беластокам паслужыць умацаванню незалежнасці нашай краіны. Наадварот, яна паспрыяе рэалізацыі постімперскага Еўразійскага праекта, стварэння саюза недэмакратычных дзяржаваў, дзе не будзе ні свабоды, ні правоў чалавека. Адраджэнне імперыі шкодзіць і Расіі, яшчэ болей аддаляе яе ад еўрапейскай цывілізацыі і вядзе да канфрантацыі з ёй.



*Аляксандр Мілінкевіч*

На гэтыя тэндэнцыі і адрэагавала апошняя рабочая брусэльская канферэнцыя, прысвечаная Еўрапейскаму дыялогу аб мадэрнізацыі.

На наступны дзень пасля яе мне давялося сустрэцца з дэпутатамі, адказнымі за замежную палітыку, галоўных фракцый Еўрапарламента. Ніводзін з іх не вёў размову пра палітыку санкцый. Хапіла Захаду Паўночнай Карэі і Кубы. Усе разважаюць пра дыялог — хтосьці скептычна, хтосьці з надзеяй.

І наконт спекуляцый вакол тэмы палітвязняў. Я не сустрэў у Брусэлі зноў-такі ніводнага палітыка ЕС, які б наважваўся скасоўваць умову вызвалення палітычных вязняў. Гэта пытанне проста не дыскутуецца, бо адсутнасць палітвязняў для аднаўлення стасункаў з Беларуссю — абсалютна неабходная ўмова. Яна адпавядае асноўным каштоўнасцям Старога кантынента, і еўрапейскія палітыкі не збіраюцца адступаць ад сваіх прынцыпаў.

Размова на сустрэчах вялася не пра дыялог для дыялогу, а менавіта пра крытычны і абумоўлены дыялог, "крок за крок". Гэта не здрада і не слабасць, а пошук эфектыўнай стратэгіі, якая можа прынесці канкрэтныя вынікі.

Большасць вядучых палітыкаў у Брусэлі сёння не вераць у хуткі пераход ад постсавецкага менталітэту да дэмакратычнага мыслення ў краінах "шасцёркі" "Усходняга партнёрства". Таму праект еўраінтэграцыі для краін Усходняй Еўропы павінен быць доўгатэрміновым.

Другая прычына вяртання да палітыкі дыялогу замест жорсткіх ультыматумаў, паўтаруся, звязана з палітыкай рэваншу Масквы ў былых савецкіх рэспубліках, з апошняй паспяховай прыватызацыяй Крамлём улады ў Грузіі і Малдове. Як і ў час пачатку першага дыялогу з Беларуссю ў 2008 годзе пасля расійска-грузінскай вайны, так і сёння пасля спробаў контррэвалюцыі ў краінах "шасцёркі" Еўрасаюз выбірае дыялог менавіта як інструмент захавання шанцаў гэтых дзяржаваў на дэмакратыю, незалежнасць і шлях да Еўропы.

Тут геапалітычныя інтарэсы Захаду супадаюць з нацыянальнымі інтарэсамі Беларусі.

**Прэс – служба "Руху "За Свабоду"**

## Біяграфічная даведка

**Аляксандр Мілінкевіч. Старшыня Руху "За Свабоду". Нарадзіўся ў 1947 годзе ў Гродне. Кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт. Намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкаму (1990-1996). Кандытат у прэзідэнты ад аб'яднаных дэмакратычных сілаў у 2006 годзе. Лаўрэат прэміі Еўрапейскага парламенту імя Андрэя Сахарава "За свабоду думкі".**

Інфармацыйнае выданне РЭГІЁН

Надрукавана ў друкарні ААТ **«Смоленская печать»** г. Смоленск, ул. Ломоносова д.3

Распаўсюджваецца бясплатна

Наклад 299 асобнікаў

Адказны рэдактар: **Алесь Зарэмбюк**